

Цэна 60 gr Цава 60 гр.

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (197) БЕЛАСТОК 6 СНЕЖНЯ 1959 ГОДА ГОД IV

# УВАХОДЗІМ У НОВЫ ГАСПАДАРЧЫ ГОД

Ужо два гады павятовыя рады нарадовыя зацвярджаюць бюджэт і гаспадарчы план не ў час яго рэалізацыі, а на некалькі месяцаў перад пачаткам каляндарнага года. Паглядзім на прыкладзе Гайнаўскага павета, якія гаспадарчыя задачы будуць рэалізавацца ў 1960 годзе і пры дапамозе якіх фінансавых сродкаў. Адначасова параўнаем гэта з уплывамі фінансавых сродкаў, якія дзяржава атрымлівае ад сялян. Гэтыя сродкі ідуць у фонд, неабходны для рэалізацыі планавых задач. Пры гэтым параўнаем даходы сялян даўней і цяпер.

Бюджэт павета на 1960 год складае суму 48 742 000 злотых. Найбольш цяжкай справай пры зацвярджэнні бюджэта было ўраўнаважанне даходаў і расходаў. Апошнія перавысілі на 313 тыс. зл. Радныя, якія падчас сесіі прымалі ўдзел у дыскусіі, амаль заўсёды падкрэслівалі, што неабходна павялічыць выдаткі на тыя ці іншыя галіны гаспадаркі. Ці ж не справядлівымі былі выступленні радных і кіраўнікоў рэсортаў, якія дамагаліся павялічэння выдаткаў на службу аховы здароўя, матывуючы гэта асабліва тым, што хірургічны і дзіцячы аддзелы ў бальніцы пашырацца, а гэта, безумоўна, патрабуе павялічэння бягучых выдаткаў. Таксама справядліва патрабавалі яшчэ большага ў параўнанні з бягучым годам павялічэння выдаткаў у сельскай гаспадарцы на такія галіны, як лесапасадкі і ахова раслін. Але з другога боку, немагчыма пакрыць адразу гэтыя патрэбы. Неабходна ўлічваць тое, што ўплывы у бюджэт не забяспечаць магчымасці іх рэалізацыі. Ці не азначае гэта, што ў нас фактычна няма рэзерваў? Не, не так. Пакажам гэта на прыкладах.

Ужо некалькі год зямельны налог, нягледзячы на ўзрост сельскагаспадарчай

(Працяг на стар 2)

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЕМІНАР у БЕЛАСТОКУ

Міністэрства Культуры і Мастацтва ўжо другі год праводзіць семінары, прысвечаныя праблемам развіцця культуры сярод нацыянальных меншасцей, пражываючых у Польшчы.

16 і 17 лістапада г. г. падобны семінар адбыўся у Беластоку, на які запрасілі культурных дзейчоў беларускага, рускага, украінскага і літоўскага таварыстваў, а таксама прадстаўнікоў і інспектароў дамоў культуры з тых паветаў, у якіх пражывае насельніцтва няпольскай нацыянальнасці.

Семінар адкрыў кіраўнік Аддзела культуры Ваяводскай рады народовай Францішак Стачкоўскі.

З абшырным дакладам аб патрэбах нацыянальных меншасцей у галіне культуры і спосабах іх заспакаення выступіла працаўнік Аддзела Культуры ВРН Леакадыя Зіневіч. Найбольш месца ў дакладзе прысвечана супрацоўніцтву Аддзела Культуры з Беларускім таварыствам. Гэтае супрацоўніцтва — як сцвердзіла Леакадыя Зіневіч — укладваецца вельмі добра, што спрые шырэйшаму заспакаенню культурных патрэб беларускага насельніцтва.

З вялікім зацікаўленнем удзельнікі семінара выслухалі даклад дырэктара Дэпартамента культурна - асветнай працы

(Працяг на стар. 3)

# ГОРАД ВЯЛІКІХ ХВАЛЯВАННЯЎ

За апошнія гады студэнты нашых ВУЗ-аў у час канікул усё больш выязджаюць за граніцу. Адны едуць на мовазнаўчую практыку, дзеля пашырэння сваіх ведаў, другія на турысцкія экскурсіі. У гэтым годзе амаль увесь ІІІ-ці курс беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта пабываў у Савецкім Саюзе.

У летнія канікулы група студэнтаў беларускай філалогіі пабывала ў Мінску на шасцітыднёвай практыцы. Мэтай гэтага пабыту з'яўлялася глыбейшае вывучэнне беларускай мовы, а таксама збор неабходных матэрыялаў да магістарскіх прац, якія ўжо незадоўга пачнуць пісаць нашыя студэнты.

Нам удалося арганізаваць турысцкую паездку па Савецкаму Саюзу па маршруту: Брэст — Масква — Каўказ — Кіеў — Брэст.

У склад нашай групы ўвайшлі студэнты ўніверсітэтаў Варшавы, Кракава і Вроцлава — пераважна студэнты філфакаў.

Масква, адзін з самых большых гарадоў міра, зрабіла на нас вялікае ўражанне.

Мы наведалі Крэмль, Трэцякоўную галерэю, Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі, Універсітэт імя Ламаносава, Музей імя Пушкіна, метро.

### КРЭМЛЬ

Размешчаны на высокім беразе Мас вы-ракі ў самым цэнтры горада. Гэта выдатны гістарычны помнік, які ствараўся на працягу вякоў. Даўжыня цагляных крэмлёўскіх сцен, над якімі ўзвышаецца восемнаццаць вежаў, налічвае больш двух кіламетраў. Высата сцен ад пяці да дзевятнаццаці метраў, таўшчыня — ад 3,5 да 6,5 метра. Вяршыны крэмлёўскіх вежаў, якія напамінаюць шахматную фігуру — туру, першапачаткова былі баявымі пляцоўкамі.

У савецкія гады на пяці вежах Крэмля ў сувязі з XX годдзем Кастрычніцкай рэвалюцыі заззялі рубінавыя зоркі. У цэнтры Крэмля ўзвышаюцца саборы, якія замыкаюць плошчу. Самы большы — гэта Успенскі сабор. Ён быў месцам урачыстых багаслужэнняў, тут вянчаліся цары, аб'яўляліся важнейшыя дзяржаўныя акты, тут знаходзяцца грабніцы мітрапалітаў і патрыярхаў.

Аружэйная палата захапляе нас сваёй прыгажосцю і вялікім багаццем. Гэта музей старычнай зброі, царскіх каштоўнасцей і мастацкіх вырабаў. Прыцягвае ўвагу адзенне царскіх выездаў і асабістыя рэчы рускіх цароў.

### ЧЫРВОНАЯ ПЛОШЧА

Да адной з сцен Крэмля прымыкае Чырвоная плошча. На ёй, непадалёку ад сцяны, паміж вежамі ўзвышаецца строгая пабудова, з паліраванага чырвонага граніта і лабрадора. Гэта маўзалей Леніна — Сталіна, пабудаваны пасля смерці У. І. Леніна Штодзённа тысячы людзей стаяць парамі ў чарзе, каб убачыць вялікіх кіраўнікоў народа. За Маўзалеем знаходзяцца магілы, дзе спачываюць прахі: Свярдлова, Дзержынскага, Фрунзе, Калініна і Жданава.

Насупраць Спаскай вежы высіцца каштоўнейшы помнік рускай архітэктуры — храм Васілія Блажэннага. Наш позірк прыкоўвае арыгінальнасць яго кампазіцыі, цудоўная апрацоўка і афарбоўка.

### ЛЕНІНСКІЯ ГОРЫ

Мы прадаўжаем сваё падарожжа па Маскве. Перад намі невысокі будынак з чырвонай і белай цэглы, з спічастымі ліштвамі. Гэта Дзяржаўная Трэцякоўская галерэя. Тут вядомы знаўца рускага жывапісу Трэцякоў сумесна са сваім

(Працяг на стар. 3)



Удзельніцы злёту.

З жыцця дзяўчат

# ХОЧАМ БЫЦЬ СЭРЦАМ ВЁСКІ

Пад такім лозунгам адбыўся нядаўна ў Беластоку Ваяводскі злёт вясковых дзяўчат — членаў ЗМВ.

Лозунг дзявочага злёту гаворыць, што нашы дзяўчаты хочуць быць сэрцам усяго таго, што змяняе вёску, што робіць яе новай, культурнай, заможнай. Як жа яны гэта робяць, якія маюць дасягненні ў гэтай працы? На злёце шмат гаварылася аб гэтым. Каб стаць сапраўднымі дзеячамі культурных перамен вёскі, дзяўчаты пастанавілі перш за ўсё навучыцца асабістай гігіены і культуры. З гэтай мэтай Павятовыя рады дзяўчат, у шэрагу мясцовасцей арганізавалі школы ахоувы здароўя, якія часта былі сапраўднымі школамі будучых маці. У гэтых школах вясковыя дзяўчаты знаёміліся з элементарнымі ведамі ў галіне асабістай гігіены, аховы здароўя, дапамогі ў нешчаслівых выпадках і праблемамі свядомага мацярынства. Даклады лекараў карысталіся вялікай папулярнасцю.

Неабыякава таксама вясковым дзяўчатам Беласточчыны справа развіцця сельскай гаспадаркі. Сёлета 850 вясковых дзяўчат — членаў ЗМВ з'яўляецца ўдзельніцамі сельскагаспадарчай адукацыі. Яны ўпольна з юнакамі праводзяць сельскагаспадарчыя доследы на спецыяльна выдзеленых участках і атрымоўваюць выдатныя вынікі.

Курсы хатняга гаспадаравання, крою і шыцця сталі неабходнымі ў жыцці большасці вясковых дзяўчат. І спартыўнае жыццё падбівае ўсё больш дзявочых сэрцаў. І хоць у некаторых яшчэ вёсках заскарупелыя каўтуны намагаюцца патыкаць пальцамі дзяўчыну ў спартыўным касцюме, але яны стаюцца бяссільнымі. Большасць сучасных дзяўчат разумее, што спорт— гэта здароўе, гэта гібкае, заўсёды маладое цела.

Часта, праходзячы вёскай, мы любуемся прыгожымі агародзікамі, морам чароўных кветак, чыста ўтрыманымі панадворкамі і культурным выглядам вёскі. Гэта заслуга нашых вясковых прыгажунь. Вясной, Ваяводская рада дзяўчат аб'явіла шэраг конкурсаў, у якіх удзельнічалі сотні вясковых дзяўчат. Напрыклад, у конкурсе на найпрыгажэйшы агародзік прыняло ўдзел 500 дзяўчат. У сувязі з гэтым конкурсам дзяўчаты выбіралі сімвалічную кветку для свайго павета. І так, напрыклад, дзяўчаты з Беластоцкага павета выбралі кветку «браток», з Элцкага — «стакротку», з Ламжынскага — «шалфей», з Сувальскага «мальву» і з Гайнаўскага — «ружу». У конкурсе на найлепшы агарод з агароднінай прыняло ўдзел 147 дзяўчат, а конкурс на культурны выгляд хаты і панадворка — 170 дзяўчат. Усе гэтыя конкурсы, — падкрэслена на злёце, — зрабілі шмат добрага ў нашых вёсках. А што найважнейшае, яны заахвоцілі вясковых дзяўчат дбаць аб чысціні і культурным выглядзе сваёй хаты, панадворка, вёскі і аколіцы. За найлепшыя вынікі ў конкурсах Ваяводская рада дзяўчат узнагародзіла 60 удзельніц каштоўнымі ўзнагародамі. Гэта быў вельмі прыемны момант злёту.

Вясковыя дзяўчаты займаюць не апошняе месца і ў канкрэтнай працы сваёй арганізацыі. На чатыры тысячы дзяўчат — членаў ЗМВ. 93 з'яўляюцца старшынямі гурткоў ЗМВ, а 85 — членамі Павятовых праўленняў ЗМВ. У Сакольскім павеце, напрыклад, аж 10 дзяўчат уваходзіць у склад Павятовага праўлення.

Аб тым, што вясковыя дзяўчаты жывуць дружна з культурай, найлепш сведчыў выгляд удзельніц злёту. Іх жа ні ў чым нельга адрозніць ад радавітых жыхарак горада. Усе чысценька, прыгожа і з густам апранутыя (дарэчы, іх вопратцы магла б пазайздросціць не адна жыхарка горада). Прычоска па апошняй модзе. Не, сапраўды, не мог я знайсці на гэтым злёце колішніх, вясковых дзяўчат.

Атракцыяй злёту быў арганізаваны дзяржаўным універмагам у Беластоку паказ моды. І хоць сапраўды было тут на што паглядзець, але, скажу па-шчырасці, не надта ён заімпанаваў удзельніцам злёту. Яны ж амаль таксама густоўна апранутыя. Хіба толькі футры па 18 тысяч злотых, але яны трошкі за дарагія.

Кульмінацыйным пунктам злёту была арганізавана вельмі цікавая і ўдалая імпрэза пад назвай «Згадуй-згадуля» на найлепшую вясковую гаспадыню Беластоцкага ваяводства. Да конкурсу прыступіла некалькі дзесяткаў дзяўчат. Яны абавязаны былі адказаць на шэраг пытанняў адносна жыцця і працы жанчыны. Апрача гэтага трэба было выказаць кулінарныя здольнасці, веды з галіны аховы здароўя і, так сказаць, мацярынскія здольнасці.

Перамагла Лена Кандратовіч з Бернатак, Аўгустоўскага павета. Як узнагароду найлепшая гаспадыня Беласточчыны атрымала сталовую пасуду і іншыя атракцыйныя рэчы на суму 600 злотых.

Злёт вясковых дзяўчат — гэта новае ў жыцці маладзёжнай арганізацыі. Але яно ўжо моцна ўспрынялося на Беласточчыне. Трэба часцей арганізаваць падобныя злёты і ў паасобных паветах. Будуць яны вельмі карыснымі ў жыцці вясковых дзяўчат.

В. БАРШЧЭЎСКІ



Найлепшая гаспадыня Беласточчыны Лена Кандратовіч на конкурсе скроіла фартушок на працягу няпоўнай мінуты.
Фота — А. Здрадоўскі.

---

ваць гэта перад сябрамі, паспрабаваў пажартаваць:

— Эх і холад! Каб не дрыжэў, замёрз бы...

Ім ніхто не адказаў. Усе былі ўзбуджаны боем, аддыхаліся. «Мацярынскае сэрца нібы чула!» — падумаў я пра жанчыну і мяне пачало грызці сумленне. Я сябе апраўдваў: «Прычым тут я? Вінавата вайна, фашысты!» Але гэта атрымалася ў мяне непераканаўча.

Аб выкананні задання групай не магло быць і гутаркі. Яна страціла людзей, з'явіліся раненыя. Людзі мусілі вяртацца. Я сярод іх быў найбольш вопытны. Партызанам трэба было б дапамагчы дайсці да лагера. Калі б я і не дайшоў да Віленскага гета, дайшлі б другія, бо аналагічныя заданні атрымалі ўсе атрады акругі і кожны выслаў сваіх пасланцаў. Адным менш, адным больш — справы не мяняла. Ды на мяне раптам павеяла Вільняй, я не мог ад яе адмовіцца.

Адзін партызан прыбег у лес з вёскі без аўтамата. Быццам адкупнае, я даў яму мой, параіў камандзіру, якой дарогай лепш вяртацца, памыў у снезе рукі ад крыві паліцаяў і пайшоў сваёй дарогай. Узяў два пісталеты, нож, індывідуальны пакет і клумак нямецкай вопраткі. Я часамі рабіўся немцам, дзеля чаго меў касцюм нямецкага лейтэнанта.

5.

Правёўшы ноч у паходзе, я задняваў на балоце ў стозе сена. Ад стомы заснуў так моцна, што рука з компасам падвярнулася пад кабуру і ад пісталета компас размагніціўся. Далей мусіў арыентавацца па зорках і ветры. І я пачаў блукаць. Праблукаў яшчэ цэлых пяць сутак. Схуднеў, аброс, перамерз да касцей.



Нарэшце, на світанні падыйшоў да Вільні з боку Парубанка. Мясцовасць станавілася знаёмай. Калісьці прыходзіў сюды на аэрадром узірацца на самалёты, лазіў з Крысяй па маляўнічых гарах. Каб не напароцца на што-небудзь неспадзяванае, вырашыў дачакацца дня, разглядзецца. Узабраўся на гару, зашыўся ў кусты. А каб крыху сагрэцца, развязаў клумак і накрыўся нямецкай вопраткай. Моцна хіліла спаць. Заснуць не мог, бо баяўся, каб хто не надышоў: зімнія кусты не летнія, скрозь голыя дубцы чалавека відаць здалёк.

Выразаў кароценькую палачку, узяў у кулакі, падставіў пад бараду. Засынаў — далоні расслабляліся, кіёк калоў бараду, я прабуджаўся. Гэтак у паўдрымоце і дачакаўся дня.

Світала, калі ўнізе праехала адна машына, другая, трэцяя. Прагучала нямецкая лаянка, плач, брэх сабак, потым усё сціхла. Толькі чуўся стук тупога інструменту аб зямлю.

Зразумеў я, што адбываецца, калі развіднела. Унізе стаялі дзве машыны з чорнымі брызентавымі будамі. Да іх былі прывязаны аўчаркі. На снезе чарнела свежа выкапаная зямля. Некалькі чалавек капалі яму. Заставіўшыся ад ветра каўнярамі паўпальткаў, вартавалі іх паліцаі. З другога боку машын, схаваўшыся ў зацішак, стаяла вясёлая група немцаў і нешта распявала. Вецер да мяне даносіў абрыўкі размовы. Доўгі і нехлямяжны, як бусел, немец адлучыўся ад кампаніі, захмялеўшым голасам прывітаў паліцаяў:

— На, полен, гайль, Рыдз Шміглы!

І зарагатаў. Тады зазірнуў у яму, ударыў ботам у зад аднаго, другога чалавека, якія капалі, і візглівым істэрычным голасам залямантаваў:



— Лёс, лё-ёс! Абэр шнэль, фарфлюктэ!..

Калі немец адышоў, паліцаі замітусіліся, пачалі гэтак сама пінаць людзей. Нарэшце, адзін з іх крыкнуў немцам:

— Фэртых!

Я свой аўтамат аддаў партызану, а цяпер ад жаху і бяссільнай злосці ў мяне на лоб выступіў халодны пот. Каб паўзірацца на мяне ў той час збоку, я недзе нагадваў безабароннага камара, якога нічога не значыць прыдушыць.

Немцы з будаў вывалаклі людзей, і загадвалі ім распранацца. Арыштаваных было чалавек васемнаццаць. Жанчыны лямантавалі, крычалі нешта і мужчыны, але раздзяваліся. Голы чалавек, цесна сціскаючы ад холаду ногі, склаўшы на снезе вопратку, паказаў на яе рукой і нешта папрасіў у немца. Той кіўнуў галавой. Чалавек нагнуўся, узяў шапку і адзеў. Мне былі відаць пазванкі худых плеч, калі ён, згорблены, станавіўся тварам да ямы.

Стукаючы зубамі ад узбуджэння, я палічыў немцаў і паліцаяў — восем. Накінуўшы на сябе нямецкі шынель, мог бы да іх незаўважна падысці даволі блізка і паспрабаваць змагацца двума пісталетамі. Сабакі былі прывязаны. «Глыбокі снег, следна, пойдзе аблава і нікуды не дзенешся», — пераконваў я сябе. Аднак, у душы была няўпэўненасць. Колькасная перавага не заўсёды вырашае бой. У мяне быў усясільны партызанскі канёк — нечаканасць.

Пакуль я вагаўся, прагучэлі стрэлы, усё было скончана. Я зразумеў, што да смерці буду мець нячыстае сумленне.

(Працяг будзе)

